


# ШАНОЎНЫ ЧЫТАЧ!

Перад табой першы выпуск літаратурна-філасофскага сшытка газеты «Культура». Мы мяркуем надалей рыхтаваць «ЛФ-сшытак» штомесяц да тае пары, пакуль не зладзіцца справа з часопісам, пра які ішла гаворка ў адкрытым лісце да Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь («Культура», №7, 1993 г.). Спадзяёмся, што зварот творчай інтэлігенцыі знойдзе станоўчы водгук у кіраўнікоў урада, бо сапраўды «філасофія, культуралогія, эстэтыка — неад'емныя складнікі кожнай нацыянальнай культуры. Да таго ж яны — яе вышэйшыя праявы і адначасна формы наступнага развою» (цытуем вышэй згаданы ліст. — Рэд.).

Так склалася, што ў папярэднія часы якраз гэтыя формы сэнсатворнай дзейнасці былі пазбаўлены магчымасці актыўна прысутнічаць у нацыянальнай культуры. І таму будзе зусім натуральна, калі патроху становішча пачне выпраўляцца. Добра было б, каб ужо ў наступным годзе беларускі чытач змог пагартаць такі неабходны нашаму досведу літаратурна-філасофскі часопіс.

Аднак пакуль тое будзе, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вынайшла магчымасць павялічыць аб'ём штотыднёвіка «Культура», каб заціснутыя ў адну газетную паласу культурасофскія старонкі «Эліта» і «Суплёт ідэй» змаглі разгарнуцца і выявіць сябе ў якасці канспекта магчымага часопіса.

Дзякуй усім, хто паспрыяў гэтаму рашэнню!

А цяпер колькі слоў пра тое, як нам хацелася б скарыстаць «дадатковую плошчу»...

Гісторыя беларускай культуры, прынамсі папярэдняга стагоддзя, сведчыць, што асноўныя светапоглядныя праблемы беларусы вырашалі праз паэтычна-вобразную мову літаратурнай (фальклорнай) творчасці. І таму нам падаецца, што на шляхах да інтэлектуалізацыі нацыянальнага мыслення мы не павінны прамінаць гэты багаты і каштоўны вопыт. Літаратурны грунт, надзейны і трывалы, мы маем. Ён вытрымае і новыя сэнсы і дадаткова напрацаваны лексікон, які, спадзяёмся, улічыць і вопыт мета-мовы «залатой пары» і сучасную тэрміналогію еўрапейскай метафізікі. Будзем зважаць, што засвойванне, «каланізацыя» новых прасцягаў духоўнага быцця адбываецца пераважна праз далучэнне да існуючых дадатковых лексем ці рашучую трансфармацыю звыклых.

Інтэлектуалізацыя паэтычна-вобразнай мовы напэўна адчыніць браму новых сэнсаў і вывядзе на шляхі да філасофскай эсэістыкі, дзе чакае хоць каго Ігнат Канчэўскі. Дарэчы, ягоная адзінота тым болей дзівіць, што «Адвечным шляхам» аніяк не выдае на нешта выпадковае, а хутчэй наадварот — успрымаецца як адметны, але зусім натуральны ў кантэксце нашае культуры факт...

«Філасофія» ў канцэпцыі «літаратурна-філасофскага» сшытка зусім не выпадкова саступіла вяршнасць «літаратуры». І справа тут не толькі ў тым, што філасофія — гэта таксама ў пэўнай ступені літаратура, як бы навукова ні «дысцыплінізавалася» яна на працягу ўсёй сваёй гісторыі, і нават не ў тым, што беларуская культуралагічная традыцыя відавочна аддае перавагу паэтычна-вобразнаму адлюстраванню светапоглядных сэнсаў, — справа ў тым, што філасофія, як спецыфічная форма мыслення, скіраваная на пошукі і вытлумачэнне Абсалютнай Ісціны, верагодна, вычарпала свае магчымасці, аб чым сведчыць яе распад у сучасную эпоху на самыя розныя сацыякультурныя з'явы (сацыялогію, культуралогію, эстэтыку, антрапалогію, псіхалогію, лінгвістыку, семіётыку, літаратуразнаўства, кіназнаўства і г.д. і да т.п.). Хіба толькі тэалогія ў самым агульным разуменні застаецца тоеснай таму, што раней атаясамлівалася з паняццем філасофія. І не выпадкова сёння азначэнне філосаф усё часцей дысперсіялізуецца на больш канкрэтныя — культуролаг, эстэтык, сацыёлаг і г.д., а таксама — крытык, тэарэтык.

Але менавіта ў звязку з такой дэ-сінкрэтызацыяй з'явы мы будзем вымушанымі карыстацца гэтым невыразным і досыць умоўным тэрмінам да тае пары, пакуль у нашай культуры на падставе нацыянальнага досведу хаця б збольшага акрэсляцца формы многіх з пералічаных складнікаў сучаснага гуманітарнага мыслення (заўважым, шмат што ў той ці іншай меры выбрыняла і мае патэнцыю для актыўнага развою)... І не толькі самім тэрмінам, але і ўсім тым «полем» дзеяння адцягненай думкі, межы якога некалі вызначала паняцце «філасофія».

Разам з тым заўважым, што мы зусім не лічым, быццам нам нічога не застаецца, як адно бегчы наўздагон за тымі, хто нас выперадзіў. Мысленне каштоўнае самасцю, і толькі гэтая ягоная вартасць мае значэнне як для нас саміх, так і для іншых. Выявіць абрыс і сутву саматоеснасці беларускага досведу ў агульным кантэксце чалавечае веды — вось тая справа, да якой жадалася б прычыніцца ў меру сваіх магчымасцей.

«ЛФ-сшытак» свядома абірае за прынцып адбору матэрыялу эклектыку і гатовы прапанаваць месца тэкстам якога заўгодна фармальнага накірунку, калі яны асэнсоўваюць праявы быцця праз беларускую ментальнасць. Можа, гэта і да лепшага, што ў нас пакуль няма магчымасці абаперціся на нешта ўжо сфармаванае, на нейкую здзейсненую школу «мудрагельніцтва», на выразную інтэлектуальную плынь. Збіраючы да аднаго ўсе высілкі пэўнага кшталту, мы можам спадзявацца, што неўзабаве з'явяцца тэксты, вакол якіх згуртуюцца сэнсатворныя пошукі, і такім чынам спакваля акрэсліцца парадыгма нацыянальнай філасафемы...

Лічым неабходным звярнуць увагу і на праблему нашых стасункаў з «акадэмічнай» філасофіяй. Не адпрэчваючы яе значэння ў належнай ёй сферы, мусім канстатаваць, што «акадэмічная» філасофія на Беларусі, за малым выняткам, аніяк не ўздзейнічае на фармаванне нацыянальнага досведу. Аднак нам якраз і хацелася б спадзявацца, што ў новай культуралагічнай сітуацыі ўсе здольныя навукоўцы-філосафы патроху, адзін за адным, пакінуць беспрытульнае валацужніцтва ўскрай расейскага мета-бязмежжа і пацягнуцца да свайго берага. Месца і працы тут хопіць усім. Не згадваючы на іншае, успомнім, што нават гісторыя філасофскай думкі на Беларусі не мае належнага сучаснаму стану навукі адлюстравання.

А цяпер паспрабуем падсумаваць папярэдне гаворанае. «ЛФ-сшытак» газеты «Культура» мае на мэце:

— актуалізаваць айчынны вопыт інтэлектуальнай творчасці;

— спрыяць вылучэнню з агульнага сэнсатворнага зместу нацыянальнай філасофіі ў формах тоесных беларускаму досведу;

— стварыць адпаведны кантэкст для тых літаратурных і культурасофскіх тэкстаў, што пакуль вымушаныя шукаць выпадковага прытулку ў традыцыйных выданнях ці ўвогуле не могуць знайсці свайго друкара;

— падтрымаць інтэлектуальную эсэістыку на шляхах станаўлення жанру;

— папулярызаваць лепшыя здабыткі еўрапейскай і сусветнай гуманістыкі.

Мы будзем вітаць паэзію сэнсаў і сэнсатворную прозу.

Не станем пераконваць чытача, што ўсё пажаданае спраўдзіцца. Лепей нагадаем беларускую прымаўку: рабі, што можаш, і хай будзе, як будзе.

**Валянцін АКУДОВІЧ.**



ЗНО

Суплёт ідэй

Ігар БАБКОЎ

# БЕЛАРУСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ: НА ЗЛОМЕ СЭНСАЎ

Беларуская культурная традыцыя знаходзіць сябе ў крытычны момант свайго існаваньня. Гэты крытычны момант ёсьць вынікам розных чыньнікаў, як доўгатэрміновых, зьвязаных з трансфармацыямі грамадства, так і тактычных, зьвязаных з рэаліямі (палітычнымі і культурнымі) сёньняшняга дня. Перш чым акрэсліць гэтыя чыньнікі больш падрабязна, пачнем з праблемы тэрміналягічнай: праблемы «Беларускага адраджэньня». Менавіта такім чынам пазнаецца сёньняшні перыяд культурнага развою. Праблемы такога тыпу ёсьць па-сутнасьці праблемы грамадскае канвенцыі, але, тым ня менш, хацелася б зазначыць наступнае:

Пад назовам «Беларускае адраджэньне» хаваюцца насампраўдзе два супрацьлегла скіраваных працэсу.

Дынаміка першага зьвязана з такімі зьменамі ў сацыякультурнай сітуацыі, як узнаўленьне дзяржаўнасьці (незалежнасьці) ды пераход праз «мадэрнізацыю» да сучаснага высока-тэхналягічнага інфармацыйнага грамадства. Гэты працэс вымагае пэўнае гамагенізацыі грамадства, шмат у чым нават уніфікацыі; спыненьня социякультурнае энтрапіі ды выбудовы праз агульнаграмадскае пагадненьне такой «нацыянальнае культуры», зь якой атаясамляў бы сябе кожны сябра гэтага грамадства. Пост-савецкай беларускай дзяржаве «нацыянальная культура» й «нацыянальная ідэалёгія» (у розных формах) патрэбная дзеля сама-легітымацыі.

Такога тыпу працэсы прааналізаваныя ў кнізе Эрнэста Гэльнэра «Нацыі й нацыяналізм» і ў той ці іншай ступені адбываліся пры складанні ўсіх эўрапейскіх нацыяў.

Зь іншага боку, мы выразна бачым працэсы пэўнага ўскладненьня ўнутранага культурнага ландшафту, што адбываецца на тле складваньня грамадзянскае супольнасьці.

Тут мы знаходзім, па-першае, пэўнае дыстанцаваньне й нават адпрэчваньне «сувенірнай» савецка-беларускай культуры, што складалася за савецкія часы. Гэтае адпрэчваньне праяўляецца ў самых розных сфэрах: як арыентацыя на моўныя кшталты заходнебеларускай ды эміграцкай літаратуры, пагарда да псэўдаэтнаграфізму й замілаваньне аўтэнтычнымі формамі фальклору (і ўвогуле традыцыйнай культурай), як самазнаходжаньне традыцыі ўва ўсходнеэўрапейскім ці ваколбалтыйскім культурным кантэксьце, як усталяваньне беларускай гарадской традыцыі ды інш...

Гэтыя два тыпы працэсаў можна было б назваць: (1) Працэсамі беларусізацыі й (2) Працэсамі набыцьця традыцыі (альбо складваньня беларускага фундаменталізму).

Першы працэс тоіць у сабе вялікую небяспеку: тып культуры, што можа скласьціся ў выніку беларусізацыі, будзе моцна крэалізаваным і няжыцьцяздольным, гэткая культура ня будзе мець унутранае саматоеснасьці й унутраванасьці: гэта будзе ідэалёгія, што выдае сябе за культуру.

Працэсы ж другога тыпу ёсьць працэсамі складваньня «ўласнакультуры», г.зн. такое сэнсавае прасторы, што нясе ўнутры сябе крытэрыі беларускасьці (адбору й засваеньня кампліментарных з’яваў зь іншых традыцыяў і, адпаведна, адхіленьня некампліментарных). І, самае істотнае, адно ўнутры такое прасторы можа паўстаць САМАРЭФЛЕКСЫЯ традыцыі — беларускае мысьленьне.

Менавіта ў якасьці самарэфлексыі традыцыі — прасторы, адкуль толькі й могуць разгортвацца далейшыя прадумваньні ў самых розных жанрах — і бачаць сябе гэтыя тэксты.

## У ПОШУКАХ МЕТА-МОВЫ

### Дзевяць указальнікаў.

1. У грунт працы ў якасьці вядучай стратэгіі вытлумачэньня пакладзены сэміялягічны (сэміятычны) падыход, «мяккая» герменэўтычная стратэгія. Пры гэтым падыходзе беларуская традыцыя бачыцца як тэкст, што разгортваецца ў часе і прасторы.

2. Вызначальным пунктам разгляду бярэцца повед* «мейсца», топаса, прасторы, якая падвойваецца: з аднаго боку — рэальная прастора жыцця й сьмерці культуры (тое, што было й адбылося), зь іншага — знакавая прастора рэканструкцыі, што заўсёды можа быць пераведзеная ў дыяхранічнае вымярэньне (прывязанае да часу і да мейсца).

3. У адрозьненьне ад расейскай традыцыі, дзе гэты вызначальны пункт перадумваецца як дзяржава (государство), ды польскай, дзе вызначальным зьяўляецца народ (lud), у беларускай ментальнасьці вядучым культура/знакава-ўтваральным чыньнікам маецца быць самая прастора /топас/ мейсца. (Згадайма самавызначэньне «тутэйшыя», што мае глыбокі культуралягічны сэнс прывязкі да мейсца, мейсцаідэнтычнасьці.)

4. Зыходзячы з гэтага, «нацыянальнае» прачытваецца не як повед, альбо ідэя, а як ландшафт, краявід — і ў гэтым прачытаньні мае глыбокі сэнс унікальнасьці.

Вызначыць беларускае можна, такім чынам, адно пазнаўшы мяжу. Але мы пазначаем мяжу тады, калі мы за яе выходзім.

5. Рэч ня ў тым, каб выходзіць за мяжу, а ў тым, каб «адамкнуць» сэнсы, схаваныя ў сярэдзіне нацыянальнага краявіда. Гэтыя сэнсы асьведамляюцца як утоеная сакральнасьць.

Гэтая тайна традыцыі дыхае нам у патыліцу, прымушае шукаць «істотныя словы», якія вялі б углыб, усярэдзіну, кідае нас на дзёрзка-суб’ектыўныя прачытаньні.

Пакуль сэнсы схаваныя, утоеныя, яны цьмяна прасьвечваюць ды прадчуваюцца праз краявід.

6. Тое, што можа перахоўваць ды ажыўляць сэнсы традыцыі, пазначана намі як МЕТА-Мова.

7. Традыцыя (культура), разлегшаяся такім чынам, што губляе адчуваньне сваіх межаў і сваёй сыстэмнасьці, арганічнасьці, свайго апрычонага** ладу (rta), — такая традыцыя распадаецца (памірае), калі ў выніку самарэфлексыі не знаходзіць свой «прынцып зборкі», сваю «мета-мову». Функцыяй мета-мовы ў сьпелах культурах ёсьць функцыя Мітры — су-ладзьдзе, упарадкаваньне, прасьвятленьне знакаў.

8. Гэткая мета-мова ня ёсьць заўсёдыўжо-наяўны ды кадыфікаваны тып пісьма, пануючы дыскурс***, што мае апірышча ў мікра-й-макра ўладзе Сёньня-Ідэі. Мета-мова знаходзіць сябе на вялікім прасьцягу — паміж мітам****ды лёгасам, зямлёў і сьветам, мовай і невымоўным. Ейным сапраўдным грунтам ёсьць СІТУАЦЫЯ МЫСЬЛЕНЬНЯ.

9. У сітуацыі мысьленьня ўладарыць не Закон, а Смага. Гэтая смага ёсьць Смага Сутнасьці. Задача мета-мовы/мысленьня — Пры-Сутнічаць пры жыцці нацыі.

### Традыцыя й мета-мова.

Гістарызм у сучаснае гуманітарнае сьвядомасьці палягае не на замацаваньні самога поведа гісторыі й адпаведна рэлятывізму культурных эпохаў, а ў прыняцьці й істотным прадумваньні такога поведа як *традыцыя* й зьвязанага зь ім поведа *дыстанцыі*. Рэч ня ў тым, што нейкая з эпохаў зьяўляецца выбраным мейсцам праўды — у адрозьненьне ад астатніх, якія ёсьць адно падрыхтоўкай альбо ўдзячным заснаваньнем, і ня ў тым, што праўда нібыта разьмеркаваная па частках і кожная эпоха валодае «сваёй» праўдай. Сёньня мы гаворым аб *праўдзе ўсяе традыцыі*.

На першы погляд, традыцыя выступае перад намі ў сваёй абектнасьці, г.зн. прадстаіць перад нашай сьвядомасьцю як пэўны прадмет досьведа, які мы вывучаем і які ўрэшце мы спасьцігаем у яго найбольш сутнасных праявах. Такі вобраз традыцыі мае карані ў новаэўрапейскай «навуковай» карціне сьвету, зь яе адразу зададзенай «гістарычнасьцю» й культурным рэлятывізмам.

Другой рысаю такога вобразу традыцыі ёсьць ейная татальнасьць — г.зн. максімальнае набліжэньне да абсалютнага веданьня. Сучасная гістарычная навука (у прыватнасьці інтэлектуальная й культурная гісторыя) імкнецца да максымальнай дэталізацыі сваіх ведаў, да прасьвятленьня самых цёмных куткоў традыцыі, да ўсё большага веданьня пра ўсё меньшае і пакідае па-за разглядам пытаньне аб тым, што значыць у сістэме культуры самаё гэтае памкненьне.

Зь іншага боку, пасьля зьяўленьня філязофскай герменэўтыкі***** зь яе апрычоным стаўленьнем да традыцыі (у цэнтры — праблематыка разуменьня й вытлумачэньня тэксту, угрунтаваная ў сваеасаблівай «онталёгіі суб’екта»), й асабліва — пасьля сэміётыка-структуралісцкага шоку шасьцідзесятых гадоў (аналіз нараджэньня, дзеяньня й успрыманьня дыскурсу), — стала відавочным, што гэткае аб’ектна-татальнае азначэньне традыцыі ёсьць толькі адным з магчымых.

Пасьля рэабілітацыі й улучэньня ў сітуацыю веды самога суб’екта, пасьля дэуніверсалізацыі навукі як формы веданьня, урэшце было пастаўлена пад пытаньне само памкненьне навукі быць адзіным легітымным (прызнаным) спосабам перадачы традыцыі.

Пасьля шырокага прадумваньня ўсяго праблемнага поля традыцыі (Хайдэгер, Фуко, Гадамер, Барт, Рыкёр) паступова сфармавалася яе новае бачаньне традыцыі: з аднога боку, яна глыбока ўфундаваная ў онталёгіі суб’екта («Досьвед гістарычнай традыцыі прынцыпова ўзвышаецца над тым, што ў ёй можа быць дасьледавана. Ён ёсьць ня толькі праўдзівым альбо аблудным, што можа быць вызначана гістарычнай крытыкай, — ён заўжды абвяшчае такую праўду, да якой мы мусім *далучыцца*». Х.-Г.Гадамер), зь іншага — традыцыя ёсьць надзвычай пластычнай сэнсавай прасторай, якая дазваляе сябе «перапісваць» кожнае новай эпосе, выяўляючы патэнцыйную бяздоннасьць укладаючых яе сэнсаў, дзе нават перыядызацыя гісторыі можа залежаць (і залежыць) ад «пэўных навязьлівых ідэяў сучаснасьці» (Ж.-Фр.Ліатр).

Асабліва хацелася б адзначыць Марціна Хайдэгера, чыя творчасьць яўляе ў сабе прыклад памятлівага прадумваньня традыцыі, няспыннага ажыўленьня здавалася б даўно забытых сэнсаў і фрагментаў культуры, якія выводзяцца з археалагічнае вязьніцы й аказваюцца (стаюцца) больш «сучаснымі», чым навязваючая сябе нам сучаснасьць. Як пісаў Хайдэгер у «Анаксімандравым выслоўі»: «Мы шукаем грэцкае й ня дзеля грэкаў, і ня дзеля ўдасканаленьня навукі, і нават ня толькі дзеля больш уцямнага сумоўя, але адзінае дзеля таго, ў гэткім сумоўі можа быць прынесена да гаворкі, у выпадку, калі яно зыходзіць у гаворку ад сябе самога. Гэта ёсьць тое, што розным чынам закранае грэкаў і нас у нашым лёсе».

Такім чынам, традыцыя ня ёсьць тое, што можа быць засвоена фармальна, як «аб’ектыўная інфармацыя», безадносная да таго, хто яе перадае і хто яе ўспрымае. Да традыцыі зьвяртаюцца, яе набываюць, і гэты працэс набыцьця традыцыі прадугледжвае максымальную сэнсавую актыўнасьць суб’екта, ягоную заангажаванасьць, прызнанасьць таго, што мы заўсёды ёсьць вынік гэтай традыцыі, што яе сэнсы «закранаюць нас у нашым лёсе».

У пэўным сэнсе, гэткі повед традыцыі, дзе цэнтр увагі перанесены з «утворанага» й «падрыхтаванага да ўжываньня» на самаё «творыва» супрацьстаіць як клясычна-навуковаму дыскурсу, зь яго сьвядома ці падсьвядома зададзенай прагрэсісцкай парадыгмай, так і культурна-гістарычнаму, дзе самазамкнёныя культурныя эпохі трагічна адпрэчаныя адна ад адной (Шпэнглер, Юнгер ды інш.).

«Традыцыя, да якой мы належым і ў якой жывем, гэта ня частка нашага культурнага досьведу, ня гэтак званае культурнае паданьне, якое б тады складалася б з адных помнікаў і тэкстаў і было б перадачай сэнсаў, што выказаныя сродкамі мовы ды гістарычна засьведчаныя. Не, нам заўсёды перадаецца traditur, самы СЬВЕТ, спазнаваны ў камунікатыўным досьведзе, ён перадаецца нам як увесьчас адчыненая бясконцасьці задача» (Х.-Г.Гадамер).

Калі мы прыгадаем сэміятычнае вызначэньне традыцыі, як *тэкст/культура, што разгортваецца ў часе й прасторы, й культуры, як сьвету, бранага ў знакавым вымярэньні*, то ўбачым тут відавочны масток, перакінуты паміж сэміётыкай ды герменэўтыкай, масток, што дазваляе весьці плённы дыялёг ды спадзявацца на кампліментарнасьць поведаў.

Сапраўды, па-за ўсімі тэкстамі й наяўнымі сэнсамі, што перадаюцца праз «школьна-адукацыйныя практыкі», застаецца галоўны гэрой культурнай традыцыі, — суб’ект, «той, хто гаворыць».

*У «маўклівым дыялёгу» з гэтым «суб’ектам традыцыі» й набываецца тая здольнасьць гаварыць самому й правы гаварыць «ад імя традыцыі», што могуць быць пазначаныя як культурная саматоеснасьць*, якая дазваляе доўжыць традыцыю ў патэнцыйную бясконцасьць.

Суб’ект традыцыі не з’яўляецца ані ідэяй (эйдасам), ані мітам (дыскурсам), ён у большай ступені ёсьць умова магчымасьці як міту, так і эйдасу. Ён ёсьць тае пнэўмай, душой, што нябачна прысутнічае ў знакавым ландшафце традыцыі, і якая дазваляе гаварыць пра гэты ландшафт як пра заселены, абжыты.

Суб’ект традыцыі па сутнасьці ёсьць ейны этос, у старагрэцкім сэнсе гэтага слова — мейсца чалавечае прысутнасьці й самая гэтая прысутнасьць — убачаная не з пункту гледжаньня універсалізму, як абстрактныя, заўсёды сабе роўныя характарыстыкі чалавечага, «радавыя прыкметы», — а як канкрэтны, унікальны «топас» тут-чалавечага, дзе, па словах Геракліта, «таксама жывуць Богі».

Калі традыцыя губляе адчуваньне свайго этасу/суб’екта, ад яе застаюцца адно мёртвыя знакі, сярод якіх ніхто не жыве, знакі, што маюць значэньні, а ня сэнсы.

Эўрапейскае мысьленьне надта доўга знаходзілася ў палоне рознага кшталту універсалісцкіх практыкаў; пачынаючы з Плятона ідэя/эйдас ёсьць мерай ды зьдзяйсьненьнем «праўдзівага», а этос традыцыі быў пакінуты паэзіі й мастацтву ўвогуле. Самаё ж мастацтва пакладалася ў сфэру «пачуцьцёвага ўспрыманьня», г.зн. эстэтыкі. Але, калі мы пагодзімся з Хайдэгерам, што «пачуцьцёвае ўспрыманьне якраз тая сфэра, дзе мастацтва памірае», з тым, што менавіта мастацтва нясе ў сабе антыўніверсалісцкі, дарэфлексыўны досьвед сьвету — прынамсі праўдзівае, сапраўднае мастацтва — мы мусім прызнаць, што дзеля разуменьня й спасьціжэньня этосу традыцыі рэсурсаў універсалісцкага мысьленьня відавочна недастаткова. Больш за тое, перавод сутнасьці сэнсавага ландшафту ў повед ёсьць адначасова руўнаваньнем гэтага этосу/суб’екта.

Такім чынам фэномен традыцыі выяўляе сябе яшчэ і ў тым, што ставіць пад пытаньне нас саміх, нашае экзістэнцыйнае знаходжаньне, нашыя інтэлектуальныя звычкі, — наш уласны «этос». З аднога боку, мы губляем інтэлектуальны наіў, разумеючы, што тыя словы/поведы, у якіх мы спрабуем спасьцігнуць ды вытлумачыць традыцыю, самі маюць доўгую й драматычную генеалёгію ў кантэксьце гэтай жа традыцыі, — зь іншага боку, мы заўсёды маем магчымасьць «думаць насуперак усяму».

*(Працяг будзе).*

---

* повед — магчымы варыянт ангельскага notion, нямецкага begriff, расейскага — понятие;

** апрычоны — асаблівы, адметны, прыватны;

*** дыскурс — адзін з базавых поведаў сучаснае сэміётыкі, які ўжываецца ў шырокім спектры значэнняў, пачынаючы ад соцыо й ідыалекта, сканчаючы агульнымі значэннямі ладу, чыну, тыпу пісьма;

**** міт — міф;

***** герменэўтыка (грэц. hermeneutike — вытлумачэнне, асэнсаванне), тэорыя і практыка вытлумачэння, асэнсавання старажытных тэкстаў, іншых помнікаў. Плынь сучаснае філасофіі.




«Віртуальная прастора». Юры ГЕРАСІМЕНКА.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 19

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11,

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11,

